Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

No 27(63) 5-11 ліпеня 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Вярхоўны Савет паўторна разгледзеў і прыняў пакет законаў, з палажэннямі якіх раней не згадзіўся прэзідэнт: "Аб унясенні змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь", "Аб сацыяльнай абароне інвалідаў", "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", "Аб ветэранах" ды іншыя. Пасля гэтага дэпутаты дапоўнілі Крымінальны Кодэкс краіны палажэннямі аб адказнасці за невыкананне рашэнняў Канстытуцыйнага Суда.

Далей парламентарыі паглыбіліся ў вывучэнне фактаў затрымання дэпутата Знаўца і прынялі рашэнне заслухаць кіраўнікоў сілавых ведамстваў на асенняй сесіі. Зусім лагічным пасля гэтага было наступнае рашэнне па абстрэлу аўтамабіля дэпутата Ганчара– даць даручэнне праваахоўным органам разабрацца ў абставінах здарэння. Зразумець дэпутатаў можна: толькі зацвердзілі кіраўнікоў МУС і КДБ і ўжо трэба прымаць па іх канкрэтныя рашэнні.

Захапіўшыся "разборкамі палётаў", Вярхоўны Савет "упусціў" прызначэнне на пасаду галоўнага рэдактара парламенцкай "Народнай газеты", што не прамінуў скарыстаць прэзідэнт Лукашэнка, які выдаў указ аб прызначэнні на гэтую пасаду М. Шыманскага. І праз пару дзён, як у старыя добрыя часы, у газетах з'явілася інфармацыя, што калектыў "Народнай газеты" неаднаразова звяртаўся ў вышэйстаячыя інстанцыі з просьбай аб рэарганізацыі ў акцыянернае таварыства і, натуральна, на гэтую просьбу працоўных адрэагаваў прэзідэнт, падтрымаўшы калектыў сваім чарговым указам. Старшыня Вярхоўнага Савета Шарэцкі так пракаментаваў падзеі: "Лічу верхам непарадку і свавольства, што адна ўлада пачынае наступаць на нагу другой. На гэтым заканчваюцца канструктыўныя перамовы, нармальная палітыка. Усе пытанні трэба вырашаць законным шляхам. Калі дрэнны закон– мяняй, але парушаць яго нельга"...

Усё глыбей канфрантацыя паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі. Для гэтага існуе шмат прычын, але палітыка– заўсёды пошукі кампрамісаў, без якіх не дасягнуць узаемаразумення, што для нашага грамадства галоўнае.

**Аляксандр УЛАДЗІН.**

## Адным абзацам

❑1 ліпеня ў Кабінеце Міністраў адбылася нарада па змяншэнню дзяржаўных расходаў. Прадугледжваецца зніжэнне непрадукцыйных выдаткаў на вытворчасці і ў апараце кіравання на 25%. Прапанова шэрагу міністэрстваў павялічыць камунальныя плацяжы падтрымкі ў прэзідэнта не знайшла.

❑На адбыўшымся паседжанні прамыславікоў прынята задача павысіць тэмпы росту вытворчасці, бо пастаўленае ў пачатку года заданне па росту ў 1% прызнанае фактычна дасягнутым. Праўда, не ўлічваецца, што на складах скапілася прадукцыі больш, чым вырабляецца за месяц.

❑Выйшаў доўгачаканы ўказ прэзідэнта, прысвечаны прадмету, які ён так апекавае,– курсу беларускага рубля. Да канца года ўстаноўлены валютны калідор, верхняя мяжа якога знаходзіцца на адзнацы 15500 руб. за долар. Аднак упэўненасці, што па такому курсу можна будзе купіць долары і ў лістападзе-снежні, няма.

❑Віцебск ахінула хваля фальшывых білетаў на канцэрты эстрадных зорак у час правядзення фестывалю "Славянскі базар".

❑З трох нарэшце прапанаваных вучонымі прэзідэнту праграм па выхаду з крызісу ў бліжэйшы час будзе прынята адна. Аб'яўлена, што ніякія адыходы ад яе недапушчальныя.

❑У бліжэйшы час чакаецца змяненне парадку ўезду-выезду беларускіх грамадзян за мяжу і вывазу імі наяўнай валюты.

❑Заўтра ў Мінску адбудзецца свята горада. У яго праграме– пастаноўка оперы "Дзікае паляванне караля Стаха" на пляцоўцы ў Траецкім прадмесці, балет на вадзе, канцэрты класічнай музыкі, фестываль моды, свята піва каля Палаца спорту.

❑Гэта ўсё будзе ў Мінску, а ў нас з вамі таксама свята - сонца, агню і кахання - свята Купалля.



## Дзеці сонца

***ВАЛОЖЫН. Так вобразна называюць у народзе сланечнікі. Цяпло гэтых раслін у выглядзе грошай грэе рукі прыватным гандлярам, якія і тут, і там з мяхамі падсмажаных духмяных семак уладкаваліся на гарадскіх вуліцах. Цану тавару дыктуе размер шклянкі: вялікая каштуе пяць тысяч рублёў, маленькая– дзве з палавінай тысячы.***

Штораніцы сланечнікавыя бізнесмены займаюць гандлёвыя месцы, каб і ў непагадзь, і ў невыносную спякоту несці сваю добраахвотную вахту. "Сланечнікавы пятачок" на твары гарадской вуліцы няцяжка распазнаць, нават калі гандляр-прыватнік пакінуў бойкую вуліцу: асфальт густа запляваны чорна-белай пацярухай..

Найбольш шанцаў для збыту такога ходкага тавару па традыцыі дае прывакзальная тэрыторыя. Акінуўшы беглым позіркам лаўкі ў зале чакання аўтавакзала, кожны беспамылкова вызначыць, што недзе непадалёк можна купіць семак. Але на гэтым сланечнікавы сіндром не пакідае ў спакоі. Толькі трапіш у салон некаторых аўтобусаў, як падэшвы абутку пачынаюць з хрустам расціраць сланечнікавае смецце. Прыкметай дрэннага густу стала ледзьве не абавязковае атаварванне перад дарогай падобным пачастункам.

У заўзятым лузанні семак любяць аднолькава папрактыкавацца і маладыя дзяўчаты, і хлопцы, якія звычайна займаюць месцы ў канцы салона. Адны, праўда, клапатліва збіраюць смецце ў жменьку, другія ж цынічна выплёўваюць яго ледзьве не на плечы суседзяў-пасажыраў.

Рабіць заўвагу і цешыць сябе надзеяй, што на яе адрэагуюць– марная справа. Таму мабыць вадзіцелі рэдка асмельваюцца парушыць дарожную "ідылію" некаторых малавыхаваных пасажыраў.

Апісаная вышэй з'ява стала звыклай у нашым паўсядзённым жыцці. Ідучы вуліцамі горада, бываючы ў грамадскіх месцах, мы і тут, і там бачым падобныя аўтографы бескультур'я. Іх нахабна прапануюць-раздаюць. А мы маўкліва прымаем. Можа, годзе?!

**Ірына ПАШКЕВІЧ.**





## "РГ" гуляе ў футбол

***МАЛАДЗЕЧНА. Прыгожы пераходны кубак турніру па міні-футболу "Беразінскае-96" паехаў у Вілейку. Футбалісты райцэнтра атрымалі яго з рук галоўнага трэнера зборнай краіны С. Бароўскага. Кожны гулец каманды атрымаў бясплатную паўгадавую падпіску на "РГ".***

Сапраўдная футбольная фіеста два дні панавала ў Беразінскім: святочная атмасфера, шматлікія гледачы, радыёрэпартаж аб гульнях... У адным з наступных нумароў паспрабуем расказаць больш падрабязна.

Другое месца заняла каманда гаспадароў пляцоўкі, на трэцім футбалісты Чысці.

Лепшым варатаром прызнаны А. Лінок з Лебедзева (прыз "Маладзечанскай газеты"), абаронцам - У. Вілюга з Чысці, нападаючым - К. Станкевіч з Беразінскага (апошнім двум прызы ўстанавіла "Рэгіянальная газета"), лепшым гульцом турніру стаў Алег Губіч з Вілейкі, які за тры гульні схітрыўся забіць 16 галоў.

Перад фіналам прайшоў матч паміж зборнымі ветэранаў футбола Беразінскага і арганізатараў. За каманду апошніх выступалі два супрацоўнікі "РГ", гуляючым трэнерам выступіў С. Бароўскі. Вынік упартай гульні - 8:8. Напэўна, гэта і паслужыла прычынай таго, што больш за ўсё апладысментаў зарабіў варатар каманды арганізатараў Г. Пустаход, які, праўда, парушыў спартыўны рэжым: быў заўважаны на полі з марожаным. Арыгінальную галявую перадачу зрабіў Бароўскі, але прынцыповы суддзя, відаць, сімпатызаваў зборнай ветэранаў, таму гол не залічыў.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

## Мы салідарныя з калегамі

Журналісты "РГ" салідарныя з калегам Юрыем Дракахрустам і тымі, хто выказаў абурэнне нападам на яго жонку. Гэты акт вандалізму нельга расцэньваць інакш, як спробу запалохвання і тэрору ў адносінах да работніка недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

---

У сувязі з рамонтам маста на перагоне Крыжоўка-Беларусь 10 ліпеня змяняецца парадак курсіравання электрацягнікоў на ўчастку Мінск-Маладзечна.

Адменены электрацягнікі:

адпраўленнем са ст. Маладзечна 6-31, 9-54, 13-40, 16-31, 17-50, 19-16.

прыбыццём на ст. Маладзечна 11-41, 13-48, 17-24, 18-02, 19-29, 21-00.

Ідуць па маршруце Маладзечна-Беларусь адпраўленнем з Маладзечна: 7-29, 8-59, 10-41, 12-55, 15-31, 17-20, 18-35.

| Адпр. з Беларусі | Прыб. на ст. Маладзечна |
|---|---|
| 9-05 | 10-12 |
| 11-43 | 12-51 |
| 13-34 | 14-42 |
| 14-58 | 16-08 |
| 17-32 | 18-52 |
| 19-06 | 20-14 |
| 20-49 | 21-57 |

10 ліпеня пасажырскі цягнік № 657 Мінск-Полацк будзе ісці са спазненнем.

За даведкамі па курсіраванню цягнікоў у суткі 10 ліпеня звяртайцеся па тэл. 70848, 78423.

## Навіны

### У міліцыянеры і ў юрысты

***ВАЛОЖЫН. За памылковым выбарам прафесіі міліцыянера звычайна стаіць не толькі яго паламаны лёс, а, часам, скалечаныя жыцці тых, хто сутыкнуўся з непрафесіяналам.***

Паменшыць колькасць выпадковых людзей у сваіх радах вырашыла кіраўніцтва Валожынскага аддзела ўнутраных спраў. Для гэтага на базе мясцовага ПТВ-208, якое спецыялізуецца на падрыхтоўцы навучэнцаў па сельскагаспадарчых спецыяльнасцях, ствараецца новая група з паглыбленым вывучэннем асноў правазнаўства. Крытэрыямі адбору ў яе будуць добрая паспяховасць за курс няпоўнай школы, выдатная фізічная падрыхтоўка і паводзіны.

Аўтары ідэі разлічваюць, што трохгадовыя заняткі па спецыяльнай праграме ў цесным супрацоўніцтве з міліцыяй дадуць добры плён: юнакі змогуць праверыць правільнасць свайго выбару, спасцігнуць азы будучай прафесіі. Плануецца, што пасля вучобы выпускнікі змогуць пайсці не толькі ў міліцыянеры, але і ў юрысты. Праўда, для гэтага трэба будзе скончыць адпаведную ВНУ.

**Таццяна ШАБЛЫКА.**

### На Маці Божую чарга ў два гады

***СМАРГОНЬ. У мясцовай парафіі праходзіць незвычайная акцыя.***

З вясны ў дамы вернікаў прыходзіць скульптура Маці Божай. На грудзях жоўтая, белая і чырвоная ружы, якія сімвалізуюць моц каталіцкай веры. Маці Божая прыносіць ў сям'ю мір, дабрыню і спакой. Сям'я, якая бярэ на ноч скульптуру, абавязкова спавядаецца, прымае камунію. І пасля вячэрняй імшы атрымлівае блаславенне і скульптуру.

У доме, куды яна завітала,– самаробны алтар, гараць свечкі. Маці Божую ўпрыгожваюць кветкамі. Уся сям'я, суседзі, знаёмыя моляцца перад фігурай цэлую ноч, наступны дзень.

А на вечар скульптура перадаецца ў іншую сям'ю. Каб узяць Маці Божую дамоў,– чарга на два гады наперад.

**Тэрэза КУМІШЧА.**

### Кансультант у час адпачынку

***МАЛАДЗЕЧНА. Прафесар універсітэта, супрацоўнік Дзярждэпартамента ЗША Алан Лайнз і яго жонка Бэці не першы год наведваюць краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Пасля Польшчы, Балгарыі, Румыніі, Малдовы і Украіны сёлета яны трапілі на Беларусь, у калектыўную гаспадарку "Палачаны".***

Алан практыкуе ў якасці кансультанта па навучанню аграрнікаў, і ў прыватнасці фермераў, асновам маркетынгу і арганізацыі рыначнай эканомікі ў галіне сельскай гаспадаркі. Яго жонка, дыпламаваны спецыяліст, якая, дарэчы, выгадавала 11 пакінутых дзяцей, займаецца пытаннямі сацыяльнай сферы. У рамках праграмы "4-Эйч" Бэці разглядае магчымасці адаптацыі нашай моладзі і школьнікаў да рынačных умоў.

Больш за тыдзень госці з ЗША знаёміліся з гаспадаркай, наведвалі розныя яе падраздзяленні, сустракаліся і гутарылі са спецыялістамі і вяскоўцамі. Напрыканцы наладзілі своеасаблівую прэс-канферэнцыю для палачанцаў, на якой выказалі свае ўражанні, заўвагі і прапановы.

Старшыня гаспадаркі Аляксандр Мучынскі гаворыць, што такія сустрэчы прыносяць значную карысць.

**Алесь ЛІПСКІ.**

### Перамог Ельцын

Па папярэдніх дадзеных, на выбарах прэзідэнта Расіі экс-камуніст Ельцын упэўнена перамог камуніста Зюганава: 53% галасоў супраць 40%. Канчатковыя дадзеныя стануць вядомыя ў хуткім часе.

**Аддзел інфармацыі.**

# "Дзень Перамогі" — і ў Германіі свята

***МАЛАДЗЕЧНА.** Дзве лініі разліву гарэлкі мае беларуска-германскае прадпрыемства Маліноўшчынскі спіртагарэлачны завод.*

Адна— "айчынная", рэспублік свабодных. Другая— германская. Кожная лінія выдае па шэсць тысяч бутэлек у гадзіну. На канвееры "Руская", "Пшанічная" і "Дзень Перамогі", што ідзе на экспарт. Тры віды настоек.

—Якасць на выдатна!— канстатуюць немцы.

Збожжа высокай якасці. Вада, што напампоўваецца са свідравін,— хоць адразу разлівай па бутэльках, ды ў гандаль. Новыя тэхналогіі. Плануецца перапрацоўваць 75 тон збожжа ў суткі. Гэта сур'ёзна.

Адкрыты фірменныя магазіны ў Маладзечне і Мядзеле. Прапрацоўваюцца варыянты адкрыцця сваіх гандлёвых пунктаў па рэспубліцы. Што тычыцца спірту, рэктыфікат пастаўляецца на такі гігант, як мінскі завод "Крышталь". З тоны збожжа выпрабляюць столькі спірту, як з чатырох тон бульбы.

У генеральнага дырэктара СП Віктара Пазнякова ў падпарадкаванні сто пяцьдзесят чалавек. Мясцовыя, з бліжэйшых вёсак, занятыя ў вытворчасці ў тры змены— працэс не спыніш. Гараджане дастаўляюцца на работу заводскім аўтобусам. Людзі не скардзяцца— заробкі неблагія і самае галоўнае— зарплату атрымліваюць без затрымак. Сваёй прадукцыяй тут не разлічваюцца— грошы на рахунку ёсць заўсёды.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Зрабіце сваё жыццё цікавым!!!

***Міжнародны скаўцкі летнік Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў дапаможа вам у гэтым.***

Трэба зазначыць, што дні пад адкрытым небам, жыццё ў еднасці з прыродай, сяброўства і вясёлыя песні каля вогнішча ў Нарачанскім краі, будуць усім прыемна ўспамінацца.

Аб'яднанне беларускіх скаўтаў 15-22 ліпеня праводзіць міжнародны летні лагер пад назвай "Нашчадкі Вялікага княства Літоўскага".

На летнік запрашаюцца: скаўты АБС з усіх рэгіёнаў Беларусі, скаўты з Украіны, Літвы і Польшчы, сябры і прыхільнікі скаўтаў АБС, асацыяцыі гайдаў Беларусі, Усебеларускі Звяз Скаўтаў, журналісты дзіцячых і маладзёжных газет і часопісаў. Летнік адбудзецца на базе харугвы "Зялёная Дуброва", па адрасу: Мядзельскі р-н, возера Свір.

Прыезд з Мінска здзяйсняецца рухам у напрамку Нарачы. Пасля Вілейкі, у в. Любань— паварот налева, на в. Іжа, далей— галоўнай дарогай да в. Буйкі, Сыромежская СШ (школа насупраць сельсавета). У школе вас сустрэнуць і пакажуць месца размяшчэння летніка. Удзельнікі яго прыбываюць у складзе 10-12 чалавек. Удзел— на самазабеспячэнні. Не хвалюйцеся адразу: наколькі дазволяць матэрыяльныя сродкі, акажам дапамогу прадуктамі харчавання (хлеб, макароны, крупы).

Праезд за свой кошт, або сваім транспартам. Размяшчэнне ў намётах, якія прывозіце з сабой. З сабой майце: прадукты харчавання на 8 дзён, турысцкі рыштунак (індывідуальны і групавы), посуд для прыгатавання ежы на вогнішчы, компасы на кожнага ўдзельніка для ўдзелу ў спаборніцтвах па арыентаванню, фарбы, каляровыя алоўкі і інш., для тых, хто ўдзельнічае ў творчых конкурсах.

Скаўцкія адзінкі бяруць абавязкова з сабой скаўцкія сцягі, уніформу, скаўцкія хусцінкі.

Па ўсіх пытаннях звяртацца: у Мінску па тэл. 560061, 324701 (Вадзім Суройдзь); у Маладзечне па тэл. 32226 (Алесь Чарняўскі); на месца правядзення летніка па тэл. 8-01797-52829 (Андрэю Балашу), званіць да 9.00 і пасля 17.00, прасіць перадаць інфармацыю Б. Пакульніцкаму або выхад на сувязь кожную суботу ў 10.15 па тэл. 8-01797-52838. (Бярнарду Пакульніцкаму).

Можна выслаць ліст на адрас: 222389, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, в. Буйкі, вул. Маладзёжная, 16, харугва "Зялёная Дуброва", Пакульніцкаму Бярнарду.

Калі ласка, не забудзьце папярэдне паведаміць аб удзеле ў летніку. Паведамленне і адказ на запрашэне пакажуць вашу павагу да арганізатараў і аблегчаць нашу працу.

Да сустрэчы ў летніку, сябры!

# Аўтамабіль па частках. Але не запасных

***Пасля публікацыі ў № 25 "РГ" рэкламнага праекта пад назвай "Аўтаклуб" чытачы звярталіся за дадатковымі растлумачэннямі.***

Беспрэцэдэнтны для Беларусі праект распрацаваў Густава Тамасіні з Аргенціны. Сэнс яго ў тым, што часовыя аб'яднанні фізічных і юрыдычных асоб (як правіла, з невысокімі даходамі) сумеснымі намаганнямі ўносяць штомесяц роўныя долі, пасля чаго грошы матэрыялізуюцца ў канкрэтны прадукт.

Іншымі словамі, створана сістэма самакрэдытавання, якая дазваляе яе ўдзельнікам дастаткова проста стаць уладальнікамі дарагіх рэчаў.

Прэзідэнт СП "Белаўтакрэдыт" Г. Тамасіні гаворыць, што ў цяперашнім выглядзе сістэма афармілася ў Бразіліі каля 30 год таму. За гэты час каля 10 мільёнаў бразільцаў набылі аўтамабілі з яе дапамогай. За апошнія 20 год прынцыпы самафінансавання сталі папулярныя практычна ва ўсіх краінах Лацінскай Амерыкі. З 1990 г. праводзіцца работа і ва Усходняй Еўропе. Колькасць кліентаў у Польшчы пераваліла за 150000, трэцяя частка з іх аўтамабілі атрымала ўжо. Што да лічбаў, то ў Бразіліі і Аргенціне палавіна аўтаўладальнікаў мае машыну дзякуючы ўдзелу ў сістэме.

**Дырэктар маладзечанскага філіяла "Пушэ" В. Гапановіч** тлумачыць, што выбар месцаў для распаўсюджвання сістэмы абумоўлены шэрагам прычын: паспяховая дзейнасць магчымая ў краінах, дзе недастатковае крэдытаванне насельніцтва, існуюць высокія выплаты па працэнтах, вялікая інфляцыя.

*- Васіль Канстацінавіч, а чым выклікана цікавасць менавіта да Беларусі?*

- Наш рынак адносна невялікі, таму і арганізацыя бізнесу лягчэйшая. Акрамя таго, перад "Белаўтакрэдытам" стаіць перспектыва асвойвання рынку краін СНД. Немалаважна, што "Пушэ" мае аўтарытэт, добрыя магчымасці, адказвае сусветным стандартам, пастаўляе на беларускі рынак сучасны, недарагі аўтамабіль "Шкода".

*- Мы паціху прывыкаем да падману спажыўца з боку розных "сістэм". Пэўныя гарантыі будуць патрабаваць і ў вас.*

- Думаю, сама назва "Пушэ" дае нейкія гарантыі: мы сур'ёзныя партнёры. За 30 год існавання сістэмы ніводнае яе прадпрыемства не мела праблемаў з кліентамі.

*- Гэта ўсё маральныя фактары.*

- Прынцыпы нашай сістэмы не дазваляюць ні прадпрыемству, ні канкрэтнаму чалавеку мець доступ да ўзносаў. На штомесяц сабраныя грошы купляюцца аўтамабілі, якія, у сваю чаргу, адразу перадаюцца ўладальнікам.

*- Калі ўсё ж нейкае махлярства адбылося?*

- "Дывідэнды" складуць суму, сабраную за адзін месяц. Гэта няўдалы бізнес; легальна можна зарабіць значна болей. Прыбытак, што паступае доўгі час, больш прыцягальны за разавае машэнства.

*- Вы не прапануеце варыянты, накшталт: "Дай мне 10 долараў, заўтра я табе аддам 25"?*

- Аплаціце свой аўтамабіль часткамі, на працягу 60 месяцаў,- і вы атрымаеце новую "Шкоду". Прычым многія атрымаюць яе да заканчэння 30 месяцаў.

*- Пацікавіцца ў Польшчы пра вас раіце?*

- Несумненна. У сваіх польскіх знаёмых спытайцеся: што такое "AutoTAK"? Вам адкажуць, што гэта наша прадпрыемства, а за час яго існавання ніводны кліент са скаргай не звяртаўся.

***Застаецца дадаць, што фарміраванне групы ў Маладзечне пачалося.***

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

## Беларусь: погляд з Варшавы

***Знаходзячыся ў канцы мінулага месяца ў дзелавой паездцы ў Польшчы, галоўны рэдактар "РГ" Аляксандр МАНЦЭВІЧ сустракаўся ў Варшаве з калегамі і палітыкамі, да чыйго голасу чуйна прыслухоўваецца краіна за Бугам. Сёння наша газета змяшчае інтэрв'ю з дэпутатам польскага Сейму кіраўніком камісіі па кантролю спецыяльных служб і камісіі польска-украінскага парламенцкага аб'яднання, членам парламенцкай фракцыі Уніі Свабоды Багданам БАРУСЕВІЧАМ, а таксама старшынёй Беларускага Народнага Фронту Зянонам ПАЗНЯКОМ, які знаходзіцца цяпер за межамі Беларусі.***

***Размовы адбыліся менш чым за тыдзень перад другім турам выбараў у Расіі, што вызначыла ход гэтых інтэрв'ю. Атрымаўшы нумар, чытач будзе ведаць папярэднія вынікі выбараў і зможа параўнаць прагнозы, зрабіць высновы.***

# Зянон ПАЗНЯК: палітыкі замежжа глядзяць на Беларусь вачамі расійскай дыпламатыі

***—Зянон Станіслававіч, вы цяпер нібы ў эміграцыі. Збіраецеся ехаць у іншыя краіны. Як успрымаюць палітыкі замежжа развіццё сітуацыі на Беларусі?***

—Цяпер я пабываў у трох краінах: у Польшчы, Чэхіі, на Украіне. Тут нашу сітуацыю разумеюць, як і трэба разумець. Асабліва на Украіне і ў Польшчы. Менш у Чэхіі. Чэхі яшчэ знаходзяцца ў стане ілюзій, як год-два таму памыляліся палякі, якія думалі, што яны ўжо ўступілі ў Еўропу. І здзівіліся самі сабе, абраўшы камуністаў.

Пасля паездак па Польшчы: у Вроцлаў, Кракаў, сустрэч у Варшаве можна сказаць, што занепакоенасць сітуацыяй у Беларусі палякі адчуваюць. Мы мяркуем закласці ў Польшчы асяродкі інфармацыі. Адзін з першых будзе ў Беластоку, дзе плануем выдаваць свой часопіс.

Карацей, тут успрыняцце сітуацыі адэкватнае, ёсць падтрымка дэмакратыі, спачуванне, робяцца высновы для сябе.

***—А на Захадзе?***

—На Захад трэба ехаць, сустракацца, даваць інфармацыю, абменьвацца поглядамі. Захад прывык глядзець на ўсё скрозь прызму свайго дабрабыту, праз сваю ментальнасць, свой сацыяльны і палітычны ўзровень.

Тут якраз і крыніца многіх памылак. Інфармацыя павінна ісці з нашага боку. Бо яны цікавяцца толькі тым, што ім зразумела, тым, што яны могуць растлумачыць сваім еўрапейскім вопытам. А гэтага вопыту малавата. Палітычная эліта замежжа глядзіць на Беларусь расійскімі вачамі, вачамі расійскай дыпламатыі. Мы едзем на дзесяць дзён у Амерыку, Англію, дзе будзем сустракацца з палітыкамі, дзяржаўнымі дзеячамі, беларускай эміграцыяй. Едзем не дзеля таго, каб набірацца вопыту, а каб данесці свой вопыт, каб яны зразумелі, што адбываецца ў свеце.

***—Выбары ў Расіі, як яны адаб'юцца на Беларусі?***

—У Расіі адбываецца суперніцтва паміж дзвюма групамі камуністаў. Адна група старой вышэйшай наменклатуры, якая стаіць за Ельцыным і паспела прыватызаваць расійскую ўласнасць. Другая група — другія і трэція сакратары, дробная наменклатура, якая нічога не атрымала ад дзяржавы і ідзе за Зюганавым. У залежнасці ад таго, якая група пераможа,— будзе вырашацца пытанне ўласнасці ў Расіі. Але хто б ні перамог у Расіі— кардынальна яе палітыка адносна Беларусі не зменіцца.

Калі пераможа Зюганаў— не выключана, што на Беларусі пачнуцца рэпрэсіі. Але калі Зюганаў выйграе, Ельцын усё адно ўладу не аддасць. Не выключана, што ў Расіі пачнецца канфлікт. Ці адразу, ці крыху пазней. Канфлікт гэты можа прывесці да грамадзянскай вайны. Сітуацыя даволі-такі пагрозлівая. Мы бачым, што ўсю сілу дзяржаўнай машыны існуючая ўлада накіравала на падтрымку Ельцына. Мне вельмі несімпатычныя і адны камуністы і другія, але калі глядзіш, якімі перадвыбарчымі метадамі, якімі сіламі карыстаюцца ўлады ў Расіі, то застаецца толькі здзіўляцца. Цалкам верагодна, што Ельцын пераможа. Хаця можа атрымацца— праваляцца абодва.

и "Рэгіянальнай газэце" зычу смеласьці і праўдзівасьці, дзеля свабоды і незалежнасьці Беларусі.
[подпіс] 27.06.96. Варшава

# Багдан БАРУСЕВІЧ: Расія не будзе карміць Беларусь

***—Пан Барусевіч, наколькі важны сёння для Польшчы чыннік Беларусі, ці заўважаеце вы свайго ўсходняга суседа?***

—Нашы адносіны, як адносіны часцін любога арганізма. Пакуль часткі арганізма здаровыя— яны незаўважныя. Калі ж адна захварэе— гэта заўважае цэлы арганізм. Тое самае і з Беларуссю. Усё было спакойна, пакуль не падпісалі пагадненне аб утварэнні ССР. Гавораць палітыкі, простыя людзі. Я езджу трамваем, чую, што Беларусь хвалюе многіх простых людзей. Палітыкі таксама абмяркоўваюць праблемы Беларусі. Парламентарыі Польшчы стараюцца і будуць старацца падтрымліваць кантакты з парламентам Беларусі на ўсіх узроўнях.

***—Наколькі рэальная, на ваш погляд, падтрымка Расіяй эканомікі Беларусі?***

—Расія толькі тады зможа падтрымліваць Беларусь сваімі грашыма, калі адыдзе ад дэмакратыі. Вядома, лёс Беларусі залежны ад таго, што будзе рабіцца ў Расіі ў самым блізкім часе. Я не думаю, што ў Расіі наступіць дыктатура. Там няма і поўнай дэмакратыі. Пакуль ёсць вольная прэса, мас-медыя, дыктатуры ў класічным стылі не будзе. Лукашэнка толькі страшыць дыктатурай, гэта хутчэй карыкатура на дыктатуру. Ён без падтрымкі Расіі ўвесці такую дыктатуру не зможа.

Гаспадарчая сітуацыя на Беларусі будзе пагаршацца. Час жа іграе на карысць дэмакратычных сіл, ад якіх многае будзе залежаць. На жаль, дэмакраты ў Беларусі перасварыліся. Маю на ўвазе складаныя адносіны паміж шэфам БНФ і іншымі дэмакратамі. Напрыклад, Грамадзянскай партыяй.

Можна параўноўваць Рух на Украіне і БНФ. Рухаўцы ведаюць, што на Украіне ёсць украінцы, якія размаўляюць па-руску. Ні ў якім разе нельга трактаваць чалавека, які размаўляе па-руску, як грамадзяніна другога гатунку. На Беларусі ж моўная сітуацыя яшчэ больш складаная, чым на Украіне. І радыкальная моўная палітыка можа адштурхнуць ад сябе людзей. Так, у заходняй частцы Беларусі людзі размаўляюць па-беларуску, але гэта толькі частка Беларусі. На мой погляд, менавіта з-за радыкалізму ў моўных пытаннях прайграў Фронт.

Вяртаючыся да стасункаў Расіі і Беларусі, трэба сказаць, што ў Расіі ідуць рэформы, прыватызацыя. Сапраўды, вялікім коштам: не выплачваецца заработная плата многім групам насельніцтва. Але ж на Беларусі ўвогуле нічога не робіцца. Хто за Беларусь будзе рабіць? Ці ж Расія будзе карміць Беларусь? Гэта немагчыма. Гэта ілюзія, што Расія далучыць бюджэт Беларусі і будзе даваць свае грошы. Як ілюзія і тое, што Расія будзе даваць грошы на падтрымку ваенна-прамысловага комплексу за сваімі межамі. Расія мае патрэбу ўкладаць грошы ў абарончую сферу на сваёй тэрыторыі. Будучае ж Беларусі абавязкова вырашыцца да будучых выбараў. З пункту гледжання эканамічнага, прэзідэнт і яго група павінны прайграць— на Беларусі няма рэформаў.

